# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 19 (455) — Нядзеля, 10 травеня 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# Масква - Пэкін - Нью Дэлі

Узаемадачыненьні між Савецкім Саюзам і камуністычным Кітаем з аднаго боку, а так-жа між Кітаем і Індыяй — з другога, знаходзяцца ў фазе глыбокага, хоць навонкі й неманіфэставанага крызісу.

Ужо ад даўжэйшага часу між Масквой і Пэкінам існуе глыбокі антаганізм. Камуністычны Кітай зусім ня скрывае тэндэнцыі, што ён прэтэндуе ў будучыні да кіраўніцтва сьветавым камунізмам. Кітайская прэса, вызнаючы сяньня кіраўнічую ролю Савецкага Саюзу ў камуністычным сьвеце, звычайна дадае, што гэта таму, што «Кітай пакуль што недастаткова сільны, каб пераняць гэтую ролю».

Але чырвоны Кітай паставіў сабе за мэту стацца «дастаткова сільным», і то ў найбліжэйшым часе. Уладары чырвонага Кітаю добра разумеюць, што каб дасягнуць гэтую мэту, неабходна дастаткова індустрыялізаваць сваю, дагэтуль аграрную краіну й тым самым разбудаваць ейны ваенны патэнцыял. Калі-б абмежавацца толькі да савецкай эканамічнай дапамогі, дык спатрэбілася-б чакаць можа сто гадоў, пакуль у галіне прамысловасьці й сучаснай тэхнікі Кітай змог-бы дагнаць Савецкі Саюз. Таму матарыяльныя сяродкі, якіх Кітаю далёка не хапае, ён пастанавіў рэкампэнсаваць таннай работніцкай сілай.

Гэта была адна, і бадай што найважнейшая з прычынаў, чаму кітайскія камуністыя прыступілі тварыць прысьпешанымі тэмпамі г. зв. народныя камуны і абвесьцілі, што за два-тры гады ў Кітаі будзе пабудаваны камунізм. Зусім зразумела, што такое апярэджаньне Савецкага Саюзу ў пабудове камунізму не магло быць па душы для крэмлёўскіх верхаводаў. Савецкі Саюз цэлых сорак год мусіў змагацца за пабудову сацыялізму і толькі цяпер, на XXI зьезьдзе камуністычнай партыі было абвешчана, што ў заплянаванай новай сямігодцы Саветы ўвойдуць у стадыю пабудовы камунізму. Кітай-жа даканаў гэта ўсяго за дзесяць год камуністычнай улады. Такога палажэньня Крэмль ня мог сьцерпіць ня толькі з матываў прэсьціжовых, але і з гледзішча на недалёкую будучыню, у якой затроза пераняцьця Кітаем кіраўніцтва сьветавым камунізмам сталася-б зусім рэальная.

Таму савецкія камуністыя ня прызналі кітайскіх дасягненьняў у галіне пабудовы камунізму й назвалі кітайскія намаганьні ў гэтым кірунку авантурызмам. Гэтак Хрушчоў на XXI партыйным зьезьдзе, гаворачы аб тым, што «камунізму ня трэба зьмешваць з авантурызмам» і называючы авантурыстымі тых, што плянуюць пабудаваць камунізм на працягу некалькіх год, меў на думцы толькі кітайскіх камуністых.

Спасярод сёлетніх першамайскіх лёзунгаў, абвешчаных ЦК КПСС, у дачыненьні да Кітаю знаходзім лёзунг наступны: **«Братняе прывітаньне вялікаму кітайскаму народу, які будуе сацыялізм».** Даслоўна такія-ж лёзунгі і ў дачыненьні да ўсіх эўрапэйскіх сатэлітаў Савецкага Саюзу, якія, таксама як і Кітайцы, «будуюць сацыялізм». Здэградаваўшы такім чынам камуністычны Кітай да ступені такіх эўрапэйскіх краінаў, як Альбанія, Польшча ці Румынія, ЦК КПСС ставіць Савецкі Саюз на зусім іншую ступень. Аб гэтым гаворыць адзін зь іншых першамайскіх лёзунгаў: «**XXI зьезд КПСС азнамянаваў уступленьне нашай Радзімы ў новы пэрыяд свайго разьвіцьця — пэрыяд разгорнутага будаўніцтва камунізму».**

У канцы лістапада й пачатку сьнежня адбылася ў Вухане канфэрэнцыя кітайскай камуністычнай партыі, прысьвечаная галоўным чынам далейшаму лёсу народных камунаў. Канфэрэнцыя, прызнаўшы й надалей народныя камуны за адзіна правільную форму арганізацыі й жыцьця кітайскага камуністычнага грамадзтва, усё-ж пастанавіла звольніць тэмпы іхнае разбудовы й значна злагодзіць іхныя формы. Гэтак у рэзалюцыі Вуханскай канфэрэнцыі пастанаўляецца: а) злагодзіць даведзены да крайнасьці рэжым для сяброў народных камунаў, б) адмовіцца пакуль што ад пабудовы народных камунаў у гарадох і в) адмовіцца ад цьверджаньняў, што камунізм у Кітаі можа быць пабудаваны за два-тры гады. Не падлягае сумлеву, што, побач з матывамі нутранага характару, звальненьне тэмпаў разбудовы народных камунаў і перанясеньне тэрміну пабудовы камунізму ў Кітай з двух-трох гадоў на неазначаны канкрэтна час было выклікана ціскам Савецкага Саюзу. Гэтак выглядаюць сяньняшнія ўзаемадачыненьні між Масквой і Пэкінам.

Цікава й заблытана пачалі апошнім часам укладвацца ўзаемадачыненьні між Пэкінам і Нью Дэлі. Пандыт Нэру сваей прыязнай палітыкай у дачыненьні да камуністычнага Кітаю імкнуўся даказаць, што ня гледзячы на ідэялягічныя розьніцы й іншыя формы грамадзкага ладу, ёсьць магчымым ідэяльнае суіснаваньне між Індыяй і Кітаем. Але апошнім часам Пандыт Нэру меў добрую нагоду горка пераканацца, што суіснаваньне з камунізмам можа быць толькі аднабокае, г. зн. узалежненае ад таго, ці і на колькі яно камуністым у дадзены мамэнт патрэбнае.

Добрую нагоду для такога ацьверазеньня далі сьвежыя падзеі ў Тыбэце. Апанаваны камуністычным Кітаем Тыбэт збройна падняўся дзеля адбудовы сваей незалежнасьці й вызваленьня з пад акупацыі камуністычнага Кітая. Такім чынам Тыбэт стаўся сяньня азіяцкай Вугоршчынай, а кітайскія войскі, кінутыя на крывавае здушэньне тыбэцкага паўстаньня, адыгралі ганебную ролю савецкіх збройных сілаў у Вугоршчыне ў лістападзе 1956 году.

Сымпатыі Індыі адразу былі на баку волялюбных тыбэтцаў, а Нэру неаднаразова прабаваў інтэрвэньяваць у Пэкін на карысьць Тыбэту. Калі-ж Даляй Ляма быў змушаны ўцячы на тэрыторыю Індыі й выдаў там асьветчаньне, якое фактычна зьяўлялася дэкларацыяй незалежнасьці Тыбэту й было больш нацыяналістычным, чымся рэлігійным, ён у Індыі быў энтузіястычна прыняты й адразу-ж атрымаў права палітычнага азылю.

У вадказ на гэта Пэкін пачаў войстра атакаваць Індыю, абвінавачваючы яе ў умешваньні ў нутраныя справы Кітаю і ў экспансыяністычных, а навет імпэрыялістычных намерах у дачыненьні да Кітаю. Сам факт крывавага здушэньня тыбэтанскага паўстаньня разглядаецца ў Індыі, як акт камуністычнай агрэсіі, якую ўпяршыню праявіў камуністычны Кітай. Індыйскія палітыкі бясспрэчна будуць цяпер змушаныя задумацца й над будучым лёсам Індыі. Індыя мяжуе зь Кітаем на прасторы некалькіх тысяч кілямэтраў, а граніца праходзіць цераз ня-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# „Ідэялёгія" і рэчаіснасьць

Савецкая ідэялёгія зьяўляецца застылай масай. Яе можна прыраўнаць да архаічнага надпісу на каменнай пліце, зьмены й інтэрпрэтацыя якога, калі яны часам і наступаюць, залежаць ад удачнай ці няўдачнай падстаноўкі замытых сілай прыродных зьяваў паасобных слоў. І ў вапошнім выпадку падобны нахіл да эвалюцыі, будучы па сваёй прыродзе штучным зьявішчам, зьвязаны большасьцяй зь імкненьнямі партыі задаволіць ці апраўдаць свае эгаістычныя гоны, і ў ніякім выпадку з мэтай унясеньня ў яе штосьці новага й канструктыўнага. Із зусім зразумелых прычынаў, бо гэтае штосьці канструктыўнае для савецкай ідэялёгіі зьяўляецца яе сьмерцяй. А таму толькі й прыстасоўваецца мэтад затушоўкі падтасаваных слоў і замены іх другімі.

Калі ўжыць савецкую тэрміналёгію, на дадзеным этапе гэтая заўважаная штучная эвалюцыя ў савецкай ідэялёгіі ідзе ў кірунку ўзмоцненых намаганьняў абгрунтаваць вылучную, усеабымаючую й непадзельную ўладу партыі й ейную такую-ж ролю, якую быццам-бы партыя пакліканая адыйграць у эканамічным, палітычным і ідэялягічным жыцьці ня толькі савецкага грамадзтва, але, аказваецца, і ўсяго людзтва. Пайменна, пасьля некаторай перадышкі, падчас якое партыя пастаралася ачысьціць сваю ідэялёгію ад тых ейных сувязяў з асабістай ідэялёгіяй Сталіна (далей партыя не пайшла!) і падчас якое навейваліся прызнакі як-бы сужыцьця з народам (часы «адлігі»), партыя з новай сілай зноў прымкнула да канцэпцыі аб тым, што яна адна й толькі адна здольная ўнікаць у так званыя «законы» гісторыі, у «законы» разьвіцьця грамадзтва, робячы адначасна й высnаў з гэтага, што яна адна зьяўляецца пакліканай распараджацца згодна свайго ўзгляду й жыцьцём гэтага грамадзтва. У выніку нараджаецца ўстаноўка, што партыя зьяўляецца вялікім карміцьцам савецкага народу (і ня толькі савецкага!), ягоным калектыўным правадыром, натхняльнікам і арганізатарам усякай ягонай дзейнасьці, што яна — розум, гонар і сумленьне эпохі. Больш таго, яна дае зразумець адначасна, што гэтае ейнае пакліканьне не абмежаванае ніякім часам, бо, як яна сьцьвярджае, у працэсе камуністычнага будаўніцтва ейная кіраўнічая й выхаваўчая роля ня будзе аслабляцца, але будзе ўсьцяж узрастаць.

Апрача падобных супярэчнасьцяў, што ўселіся ў партыйнай «марксістоўскай» ідэялёгіі, зьявіліся й іншыя ягадкі годныя ўвагі, якія наагул адмяжоўваюць партыю ад народу, творачы зь яе апрычонную замкнутую касту. Пра гэта сьветчыць цяперашняе ўхапленьне партыі за ленінскі прынцып арганізацыі партыі й ейнага месца ў жыцьці народу й дзяржавы. Ня што іншае, але толькі гэта мае на ўвазе таксама й партыйнае асьветчаньне пра тое, што партыя ня можа зьлівацца з масамі, што яна й далей будзе захоўваць арганізацыйную самастойнасьць і кіруючую ролю ў грамадзтве, будзе выступаць, як зусім складзены й стала ў дзеяньні калектыў аднадумнікаў-камуністых з сваімі апрычоннымі кіраўнічымі ворганамі, праграмай і ўставам, арганізацыйнымі, тактычнымі й тэарэтычнымі прынцыпамі, з сваімі законамі й нормамі ўнутранага жыцьця.

Тым абгрунтаваньнем, якое партыя высоўвае ў апраўданьне гэтага свайго так прапагаванага цяпер пакліканьня й у апраўданьне свайго каставага абмежаваньня, аказваецца, зьяўляецца «нязьдольнасьць» народу ці грамадзтва да самастойнага жыцьця, ягоная «няздольнасьць» кіравацца «законамі» гісторыі, якія вядуць да ... камунізму. Таму партыя й прапануе, праўдзівей накідае, свае ўслугі народу, заклікаючы, праўдзівей прымушаючы, яго пакарыцца ейным капрызам.

Такі стан рэчаў асабліва запанаваў ад XXI зьезду КПСС, і цяпер уся савецкая прапагандовая літаратура й прэса ськіваная на падобнае «ўсьведамленьне» народу. Ня мінуў гэты лёс і беларускую савецкую прэсу. Кажны яе артыкул ці рэпартаж дыхае падобнай акцыяй. Возьмем хоць-бы артыкул кандыдата філязафічных навук. У. Сікорскага, які быў зьмешчаны ў газэце «Зьвязда» з 17 красавіка сёлета пад назовам «КПСС — кіруючая й арганізуючая сіла ў барацьбе за перамогу камунізму». Сваім зьместам і лягічнасьцяй думкі ён нічым ня розьніцца ад любога іншага артыкулу на падобную тэму. Выконваючы партыйны заказ, у ім У. Сікорскі ў нахабны спосаб намагаецца давесьці грамадзтву, што партыя, зьўляючыся непамыльнай і маючы ўсе задаткі незаменнага правадыра, законна ўзурпуе правы народу й паасобных грамадзян, законна абмяжоўвае свабоду «буржуазнага тыпу». Народу тут не пакідаецца навет ніякай самастойнай думкі, ня толькі што дзеяньня. Ён разглядаецца ў выглядзе нейкай статычнай сілы, якая можа праявіцца толькі пад узьдзеяньнем партыйных экспэрымэнтаў і то толькі як фізычная рэакцыя й аўтаматычны прыбор. Партыя пакліканая кіраваць і «выхоўваць», а народ мусіць або імітаваць партыю, калі справа тычыцца ягонага духовага жыцьця, або выконваць для партыі фізычную працу й то згодна прынцыпу «жыць і праца-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Гэнэза „халоднай вайны"

Цяперашняе напружанае палажэньне ў сьвеце, якое ўжо трывае 13 гадоў, акрэсьліваецца выразам «халоднае вайны». Гэтым выразам штодзённа карыстаецца бальшавіцкая прапаганда, аблыжна заклікаючы Захад да спыненьня гэтай «халоднай вайны»; аднак у запраўднасьці бальшавікі ствараюць штораз новыя вогнішчы міжнароднага напружаньня. Таму варта прыгадаць, калі і як пачалася гэта гэтак званая «халодная вайна».

4-га сакавіка 1946-га году 15 савецкіх танкавых брыгад пачалі займаць правінцыі пэрсыдзкага Азэрбайджану і разьмяшчаюцца ўздоўж турэцкай і іракцкай граніцаў. Адначасна другая савецкая армія ў падобным складзе перайшла праз усходнюю Баўгарыю і разьмясьцілася на турэцкай граніцы ў Эўропе. Разам з рухам вайсковых аддзелаў, Масква пачала войструю прапаганду і дыпляматычную акцыю супраць Анкары і Тэгэрану. Савецкі ўрад у пагрозьлівай норме ставіў Турцыі цэлы шэраг дамаганьняў, як прызнаньне правоў СССР у Дарданэлях і на Басфоры, адданьне тэрыторыі Карсу і Ардагану і г. д. Із свайго боку Грузінская ССР паставіла таксама тэрытарыяльныя дамаганьні Турцыі. Адначасна з гэтым савецкія агенты пачалі падбухторваць курдыйскія плямёны ў Турцыі, Іране і Іраку да паўстаньняў.

Дыпляматычная і вайсковая акцыі савецкага ўраду не пакідалі ніякіх сумневаў. Крэмль хацеў запалохаць Турцыю і прымусіць яе, калі не да капітуляцыі дык да шырокіх канцэсіяў у сваю карысьць.

Крыху інакш выглядала справа ў Іране. Там савецкае войска знаходзілася ад 1941-га году і было, із згодай іранскага ўраду, уведзенае дзеля аховы шляхоў, якім ішла амэрыканская ваенная дапамога Савецкаму Саюзу. Аднак, згодна з умовай, савецкая армія мела быць выведзеная зь Ірану шэсьць месяцаў пасьля заканчэньня Другой Сусьветнай вайны. Такім чынам, 2-га сакавіка 46-га году эвакуацыя савецкай арміі з паўночнага Ірану мусіла быць закончаная. Але, як заўсёды, бальшавікі ня думалі выконваць сваіх забавязаньняў, якія яны заўсёды ўважалі і ўважаюць за бязвартасныя шматкі паперы. Таму якраз 2-га сакавіка 46-га году савецкі ўрад апублікаваў кароткую заяву, у якой гаварылася, што савецкае войска «мусіць» далей акупаваць паўночны Іран з прычыны таго, што там паўстаюць «непарадкі». Да таго часу ў Іране была адна дывізія пяхоты і дзьве дывізіі кавалерыі, 18 танкаў і 4 самаходныя гарматы. Але 4-га сакавіка савецкі ўрад увёў туды яшчэ 15 танкавых брыгадаў пад камандай маршала Баграмяна. Гэта азначала ня толькі недатрыманьне ўмовы, але і было выразным актам агрэсіі.

Гэтая акцыя савецкага ўраду спачатку зьдзівіла, а пасьля паважна ўстрывожыла заходнія дзяржавы, якія тады яшчэ верылі ў добрую волю бальшавікоў.

Справа Ірану і Турцыі была пастаўленая на разгляд Рады Бясьпекі ЗН. 27-га сакавіка 46-га году тагачасны прадстаўнік СССР у ЗН Андрэй Грамыка падчас разгляданьня справы іранскага Азэрбайджану першы раз дэманстрацыйна выйшаў з залі паседжаньняў. Але перад гэтым ён выступіў зь гістарычнай прамовай, у якой між іншага ўрачыста заявіў:

«Сталін ужо сказаў і я паўтараю яшчэ раз перад прысутнымі, што ніводзін аддзел савецкага войска ня ўступіў у межы паўночнага Ірану пасьля 2-га сакавіка...»

Гэтае ўрачыстае асьветчаньне савецкага дыплямата моцна зьдзівіла слухачоў і грамадзкую думку сьвету, якая была добра паінфармаваная, што якраз пасьля 2-га сакавіка 15 савецкіх танкавых брыгадаў увайшлі ў Іран. Ілжа была нахабная і відавочная, а ілгалі Сталін і Грамыка.

Гэта быў першы ўструс для дэмакратычнага сьвету, які пасьля вайны паверыў бальшавіцкім правадыром і інтэнсыўна раззбройваўся. Аднак рэакцыя Захаду была рашучая і моцная. Дзяржаўны сакратар Задзіночаных Штатаў Бэрнс выслаў у Маскву войструю ноту, а амэрыканскі прадстаўнік у Радзе Бясьпекі ня менш войстра выступіў супраць савецкай агрэсіі. Каб падкрэсьліць сваю рашучасьць амэрыканскі ўрад паведаміў, што амэрыканскі дрэдноўт «Місуры» будзе высланы ў Істамбул.

Гэтая рашучая акцыя падзеіла на бальшавіцкіх правадыроў, бо 26-га сакавіка Грамыка нечакана заявіў на паседжаньні Рады Бясьпекі, што савецкая армія будзе выведзеная зь Ірану на працягу 5-6-ці тыдняў.

Так скончылася першая бальшавіцкая агрэсія і так пачалася гэтак званая «халодная вайна».

Аднак бальшавікі ня спынілі сваіх імкненьняў да падбою сьвету і агрэсыўныя акты пачалі множыцца, а міжнароднае напружаньне павялічвацца. Хопіць прыгадаць такія факты, як чэхаславацкі пераварот у 48-ым годзе, блякада Бэрліну, Карэйская вайна, цкаваньне на Блізкім Усходзе, здушэньне вугорскага паўстаньня, страляніна ў Тайванскай пратоцы, справа заходняга Бэрліну й цяпер Тыбэт. Тыбэцкая трагэдыя яшчэ раз даказала сьвету, што камуністычныя дыктатары ніколі не датрымоўваюць сваіх забавязаньняў. Яшчэ ў 1931-м годзе, калі Мао Цэ-дун імкнуўся да захопу ўлады ў Кітаі, ён праклямаваў правы Тыбэту на поўную незалежнасьць. Але, як праўдзівы камуністычны правадыр і ідэялёг — захапіўшы ўладу — ён забыўся аб сваіх забавязаньнях.

У 1951-м годзе камуністычны Кітай падпісаў умову з тыбэцкім урадам, у якой забавязаўся не парушаць аўтаноміі Тыбэту, рэлігійнага й палітычнага аўтарытэту Даляй Лямы, і традыцыяў тыбэцкага народу. А сяньня чырвоны кітайскі дракон жорстка здушвае тыбэцкае паўстаньне й топіць у крыві імкненьне да свабоды.

Гэта — далёка ня ўсе прыклады камуністычнай агрэсыўнасьці, якія ўжо 13 год трымаюць сьвет у напружаньні — у стане гэтак званай «халоднай вайны».

Усе гэтыя акты агрэсіі інспіруюцца Масквой. І калі савецкая прапаганда абвінавачвае Захад у падтрымоўваньні «халоднай вайны» — дык гэта простае звальваньне з хворай галавы на здаровую.

пс

# Рэвізіянізм і партыйны заказ

Уладзімер Карпаў у «Вясновых ліўнях» кажа: «...Калі чалавек звыкаецца з чым-небудзь, дык часам перастае войстра адчуваць. Ня так ужо радуюць дасягненьні, ня вельмі засмучаюць і няўдачы, бо і тое і другое, перажытае ня раз, стала будзённым. Ды і самі дасягненьні і няўдачы не асабліва кідаюцца ў вочы, і чалавек клапоціцца толькі аб тым, каб ня было горш...» («Вясновыя ліўні», «Полымя», № 2, 1959).

Так, народ беларускі звыкся з усім. За трыццаць лет сталіншчыны столькі давялося перажыць пакутаў, зьдзекаў, ашуканстваў, што ён цяпер ужо ня верыць ні ў што і не заўважае нічога. Адна толькі гвалтоўная калектывізацыя чаго яму каштавала. А расправа з так званымі нацдэмамі, а яжоўшчына, адбіраньне хлеба да астатняй скарынкі, а дармовая праца на скарб — праўдзівей на хуліганствуючага партыйнага бюракрата. Тут ужо ня мог ўратаваць і лес, які ратаваў у часы вайны хатняй! Хоцькі-ня-хоцькі Беларус мусіў падстаўляць свой худы карак пад хамут новага пана.

А потым вайна, — жудасная, усё крышучая на сваім шляху, вайна! Колькі ахвяраў забрала яна ад беларускага народу! Але хіба гэтая вайна была для Беларуса «айчыннай», як яе цяпер называе савецкая прапаганда? Хіба яна была патрэбна беларускаму народу, пачалася хоць у малой ступені зь ягонае волі? Савецка-фашыстоўская вайна была распачата гэнымі дзьвюма сіламі — фашызмам і бальшавізмам — наўсуперак народу, за ідэялягічную гэгэмонію ў сьвеце, за апанаваньне чужымі тэрыторыямі, за вынішчэньне або падпарадкаваньне сваім імпэрыялістычным канцэпцыям слабейшых, меншых, такіх, як беларускі, народаў, — тым часам гэтая вайна была задумана з абодвых бакоў на тэрыторыі Беларусі, і беларускі народ мусіў сьцякаць крывёй у гэтай вайне. І адно, што ўлівала надзею ў сэрца Беларуса — гэта — **«скончыцца вайна, дасьць Бог абедзьве гэтыя заразы зьгінуць і жыць стане лягчэй».** Ня спраўдзілася!

**Залечываньне** ранаў вайны патрабавала **ад беларускага** народу новых **жудасных намаганьняў.** Працавалі па шаснаццаць гадзінаў на дзень. Працавалі аб голай бульбе або аб сухой чэрствай скарынцы чорнага хлеба. Працавалі калекі, дзяды і бабкі, малалеткі-дзеці. Што-ж рабіць? Не сядзець-жа ў курных зямлянках! Беларус цярплівы — **«вось як-небудзь адбудуемся, мо тады вальней уздыхнём!»** Пабудавалі шмат! Беларускія саракатонныя самазвалы, трактары, матацыклі, самакаты ведамы цяпер па ўсяму сьвету. Але хіба гэтыя дасягненьні хоць у значнай ступені зрабілі Беларуса гаспадаром на сваёй зямлі, палепшылі ягоны быт, далі яму ў волю паесьці, цёпла і добра апрануцца, адпачыць у цёплай, раскошнай і ўтульнай кватэры?

І да сяньняшняга дня ўсе гэтыя «раскошы» ёсьць толькі ў марах Беларуса, і ён мусіць не расставацца з «авоськай», куды-б ня ішоў: **«авось што-небудзь па дарозе дастану?»** Жудасныя жыльлёвыя ўмовы, нястача самага патрэбнага, чаргі, няўдзячная праца ў калгасе, на хвабрыцы, на заводзе, выматваючыя здароўе няўрочныя сходы, нарады, курсы і лекцыі па вывучэньню партыйных дырэктываў, галодныя і недагледжаныя дзеці, выхаваньнем якіх, у бальшыні, займаецца вуліца! І гэта ў той час, калі ў так званым капіталістычным сьвеце пасьля апошняй вайны чалавецтва дасягнула вялізарнейшых поступаў ува ўсіх галінах жыцьця: у тэхнічнай, эканамічнай і сацыяльнай. Даволі таго, што ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі працоўны тыдзень складае пяць дзён, усяго сорак гадзінаў, а ў такіх прамысловасьцях, як будаўніцтва трыццаць пяць, а ў капальнях — усяго толькі трыццаць. На кажныя тры Амэрыканцы прыпадае адзін легкавы аўтамабіль...

...«Чалавек звыкаецца»... і ...«перастае войстра адчуваць...», ...«ня радуюць (яго) «дасягненьні» і «не засмучаюць няўдачы», а чаму ў яго мусіць балець, — ёсьць гэтыя дасягненьні і няўдачы, ці іх няма, ад гэтага чалавеку ня стане ні лепш, і ня горш, бо ўсё гэта не ягонае, ён не гаспадар на сваёй бацькаўшчыне, хоць яму гэтая роля і прыпісваецца, ён толькі парабак, пры гэтым бясправны, занядбаны; ён нейк павінен выкручвацца, даваць сам сабе рады, каб абараніцца ад стыхіі і ад зграі насядаючых на яго з усіх бакоў партыйных бюракратаў, штампаўшчыкоў ад палітыкі ці ад палітыканства, ад «апрычнічаючых» камісараў — там-сям «падхаўтурыць», там-сям зьмахнуць «налева» — **«абы толькі горш ня было»!**

Апошнім часам савецкая прапаганда ўсе свае сілы скіроўвае на рэвізіянізм. Муліць ён моцна; зразумела, рэвізіянізм — гэта той маленькі чарвячок, які падточвае карэньне вялікага дрэва і валіць яго. Але цікава, вытокі рэвізіянізму гэтага бачаць правадыры не ў практыцы бальшавізму, не ў сталіншчыне, не ў сваёй асабістай апрычніне, не ў пагвалчаньні заваёў рэвалюцыі, не ў дыскрымінацыі сацыяльных ідэяў, за якія змагаліся лепшыя людзі ўсяго чалавецтва, а ў цітаізьме, нацыянал-камунізьме, буржуазным нацыяналізьме, недастатковым веданьні, быццам-бы прац Маркса-Энгельса-Леніна і ў іншых чыста суб'ектыўных зьявах. Але гэтая эклектыка ня дзейнічае на народныя гушчы. Тэорыя адно, практыка другое! Догмы марксізму ствараліся, галоўным чынам, у час так званага першапачатковага капіталістычнага накапленьня. Развіцьцё грамадзтва з таго часу так рушылася наперад, што ад стану, у якім у той час былі працоўныя масы, не засталося і знаку. Марксавы догмы цяпер ёсьць мёртвыя, тым часам савецкія эканамістыя намагаюцца дапасаваць да іх савецкае жыцьцё, — і ня дзіва таму, што працоўныя масы ў СССР апынуліся ў матар'яльна-прававых дачыненьнях горшых, за тыя, што былі, скажам у Англіі для рабочых за жыцьцё Карла Маркса!

Адначасна з гэтым, у мэтах змаганьня, відавочна, з буржуазнымі нацыяналістымі савецкаая прапаганда намагаецца ўсімі сіламі хвальшаваць гісторыю меншых народаў, як Беларусы, Украінцы, Балты, Каўказцы, баючыся, што гэтыя народы, урэшце-рэштаў, захочуць узяць свой лёс у свае ўласныя рукі. Чаго варты, напрыклад, усе выпушчаныя ў БССР і ў Маскве працы вучоных па гісторыі беларускага народу, аб ягоных культурных дасягненьнях, гістарычных помніках, архітэктуры і г. д. Францішак Скарына перахварыўся ў Георгія Скарыну, першага расейскага навукоўца, грады Менск, Віцебск і іншыя — у «древние русские города», усё лепшае зь беларускай культуры, якое зьяўляецца сьветкай існаваньня слаўнай дэмакратычнай прагрэсыўнай беларускай дзяржавы, залічаецца ў дасягненьні расейскага народу, карыстаючыся, у мэтах хвальсыфікацыі, тэрмінам «русь, рускі», які, як ведама, узьнік яшчэ надоўга да паўстаньня расейскае нацыі й расейскае дзяржавы. Іншыя-ж беларускія гістарычныя здабыткі так званага літоўскага пэрыяду аддае Жмудзінам, абы толькі давесьці, што «незалежнасьць» Беларусі дала камуністычная партыя.

Але, усё гэта адзнакі толькі слабасьці, толькі таго, што нігілізм, сцэптыцызм, рэвізіянізм глыбака пранікі ў сьвядомасьць народных гушчаў, асабліва тых народаў, якія былі ашуканыя абяцаньнем незалежнасьці, і якія, у выніку гэтага, найбольш пацярпелі за часы сталіншчыны і ейнае апрычныны. Аднэй з адзнакаў гэтае трывогі за ўладу зьўляецца IV зьезд савецкіх беларускіх пісьменьнікаў, які адбыўся ў лютым г. г. Падобныя зьезды, як ведама, ніколі нічога агульнага з запраўдным жаданьнем удасканаленьня літаратурнай творчасьці ня мелі. Камуністычнаму ладу, пакольк ён апіраецца на гвалце, на прымусе, запраўдных творчых намаганьняў з боку пісьменьнікаў ня трэба; ён баіцца іх.

Зьезды пісьменьнікаў скліканюцца выключна з нагоды якой-небудзь небясьпекі для ўраду, казаў той, «загнаць вылезшага з клеткі льва на ягонае ранейшае месца». Такім львом паслужыў для IV зьезду беларускіх савецкіх пісьменьнікаў рэвізіянізм і буржуазны нацыяналізм.

На зьезьдзе гэтым не абгаворвалася сур'ёзна ні адно прынцыпова-важнае літаратурнае пытаньне. IV зьезд беларускіх савецкіх пісьменьнікаў паказвае на тое, што кароткатрывалая маленкоўская адліга ў літаратуры скончылася. Аб гэтым яшчэ больш выразьней сказаў сам «гаспадар» савецкай Беларусі Мазураў: ён коратка і недвузначна **загадаў пісьменьнікам выконваць партыйны заказ!** Тут ужо кропка: літаратура пакладзена ў труну і забіта моцнымі партыйнымі цьвікамі...

**Ц. Самасевіч**

## Масква - Пэкін - Нью Дэлі

**(Заканчэньне з 1-ай бач.)**

прыступныя горныя мясцовасьці. Пры вельмі слаба й прымітыўна разбудаваным ваенным патэнцыяле ня можа нават быць і мовы, каб Індыя магла збройна бараніць сваю паўночную граніцу ў выпадку кітайскай агрэсіі.

Трэба думаць, што ў ваблічны палітычнага канфлікту зь Індыяй камуністычны Кітай будзе цяпер старацца цясьней зьвязацца з Савецкім Саюзам. Для гэтага апошнім часам заіснавалі й іншыя матывы. На сэсіі Нацыянальнага Народнага Кангрэсу (парляманту), які адбыўся 27 красавіка, замест Мао-Тсэ-Тунга быў абраны «старшынёй Народнай Кітайскай Рэспублікі», г. зн. прэзыдэнтам Кітаю выдатны кітайскі камуністы й тэарэтык камуністычнай ідэялёгіі Лью-Шао-Чы. Мао-Тсэ-Тунг затрымаў на далей толькі партыйныя становішчы старшыні палітбюро й старшыні цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Кітаю.

Ня будзем уваходзіць у шуканьне прычынаў адыходу Мао-Тсэ-Тунга ад дзяржаўнага кіраўніцтва, тым болей, што гэты адыход, заплянаваны яшчэ ў сьнежні 1958 году, ня быў неспадзяваным. Важна ў дадзеным выпадку **тое**, што Лью-Шао-Чы ўважаецца за сьлепа адданага Саветам і яшчэ ў часе існаваньня камінтэрну быў выкарыстоўваны Сталінам у ягоных розыгрышах з Мао-Тсэ-Тунгам.

Гэтак зусім ня ідэяльна выглядаюць узаемадачыненьні між Масквой, Пэкінам і Нью Дэлі. Зразумела, да адкрытага палітычнага канфлікту між Масквой і Пэкінам сяньня ня дойдзе, бо абедзьве камуністычныя краіны ўзаемна сябе патрабуюць і вонкавая згода між імі зьяўляецца неабходнай таксама дзеля захаваньня адзінага камуністычнага фронту. Таксама ня дойдзе сяньня да халоднай вайны ў эўрапэйскім стылі між Пэкінам і Нью Дэлі, бо гэта абазначала-б поўнае банкроцтва нэўтралістычнай палітыкі Падыт Нэру. Затое глыбокія супярэчнасьці паміж трымя ўсходнімі вяліканамі ў бліжэйшай ці далейшай будучыні могуць прывесьці да нечаканых і паважных канфліктаў.

**Язэп Каранеўскі**

## „Ідэялёгія" й рэчаіснасьць

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

ваць пакамуністычнаму», г. зн. выконваць і перавыконваць устаноўленыя для яго нормы выпрацоўкі. Прыйсьце жаданага «камунізму», ведама, яшчэ за сотнямі гарызонтаў, а таму ў гэтым адрэзку часу ня можа быць і мовы аб нейкай там «ураўнілаўцы», тым больш аб зьнясеньні партыйнай **апекі**.

Найбольшым-жа абсурдам зьяўляюцца вытычныя артыкулу аб тым, што ўжо савецкая грамадзтва ўступіла ў стадыю ўсебаковага развіцьця найдэмакратычнейшага дэмакратызму, у стадыю разьвіцьця ўздзелу ўсіх савецкіх грамадзян у кіраўніцтве гаспадарчым і культурным будаўніцтвам, у кіраваньні грамадзкімі справамі. Сцьвярджаючы гэта, аўтар як-бы не заўважае, што ён пярэчыць сам сабе сваім выступам супраць прапагаваньне «югаслаўскімі рэвізіяністымі» «узурпацыі» народам тых жалезных правоў партыі, а таксама надзяляючы «сваю любімую» партыю неабмежаванымі «законнымі» правамі ўлады над народам.

Усе гэта ня ёсьць толькі кашмарам ідэялягічнага змаганьня й прэтэнзій. Яно моцна ўелася таксама ў практыку савецкага жыцьця. Тут запраўды так і пануе партыя, як яна й прэтэндуе. Духовае жыцьцё савецкага грамадзтва зьяўляецца поўнасьцяй у ейных руках. Ня лепш справа й з матэр'яльным ягоным жыцьцём. Гэта ўжо ведомыя рэчы. Аднак **тут трэба** зазначыць, што з назначаным «пераходам да камунізму» гэтыя абыдва бакі жыцьця савецкага грамадзтва становяцца проста нявынослівымі, катаржнымі. Цяпер партыя проста сядзіць на гарбу кажнага савецкага грамадзяніна, вымагаючы ад яго проста немагчымага. З мэтай выкананьня сямігадовага пляну й «даганяньня Амэрыкі» ў калгасах працуюць бадай днём і ноччу. Усюды ўведзеныя так званыя «брыгады камуністычнай працы», а дзе іх яшчэ няма — камуністычнае спаборніцтва. Ад калгасьнікаў адбіраюць малако, мяса, кароў і агароды. Яны навет змушаныя «прадаваць» з сваіх хлявоў гной. Асабліва моцна даецца моладзі, і тым больш камсамолу. Яе гоняць у Сібір і Казахстан „прымушаюць браць непасільныя забавязаньні. Прыкладам забавязаньні беларускага камсамолу й моладзі на 1959 год — адабраць ад калгасьнікаў 650 тысяч цялят, адкарміць 800 тысяч сьвіней, выгадаваць 5,5 мільёна галоў усякай птушкі й каля 3 мільёнаў трусоў, вырасьціць 120 тысяч гэктараў кукурузы й абняць усю работу на калгасных жывёлагадоўчых фэрмах, ну ведама й працу на калгасных палёх ці на заводах.

Што-ж атрымоўвае гэтыя савецкі катаржнік за свае высілкі. Пшык. Напрыклад, сярэдні заробатак калгасьніка (цяпер калгасьнікаў пераводзяць на грашовую аплату) каля 350 рублёў у месяц. З гэтае сумы ён яшчэ мусіць заплаціць падаткаў каля 25%. Камсамольцы-ж «забавязваюцца» ўнесьці ў камсамольскую «капілку» з свайго даходу мільёны рублёў.

Адным словам, будуюць «камунізм». Для каго? Дачы, «Масквічы» й «Волгі» для партыйцаў — гэтай новай савецкай арыстакратыі. Ня зьдзіўляе таму, чаму партыя так трымаецца абеуч сваёй заскасьцянелай ідэялёгіі й падымае сяньня свой «камуністычны» лямант, які проста пераходзіць у роспачны крык Дантавага пекла. А гэта азначае намаганьні партыі ўтрымацца ўсемагчымымі спосабамі пры сваіх прывілеях, пры сваім карыцы. Трубленьне-ж пра непадзельную й усеабыймаючую ўладу партыі, пра ўзрастаньне ролі партыі пры прыбліжэньні да «камунізму» — вынік незадаваленьня савецкіх рабоў, вынік нарастаньня супярэчнасьцяў унутры савецкага грамадзтва.

**П. Залужны**

**АНДРЭЙ МАКАЁНАК** 8)

## Каб людзі ня журыліся

**Камэдыя ў 4-х актах**

**Кавальчук:** А пра што я павінен здагадацца?

**Аксіньня** (стараецца не глядзець яму ў вочы): Шукай, старшыня, другую кватэру. Нельга табе жыць у мяне.

**Кавальчук:** Чаму?

**Аксіньня:** Таму. Я ўжо тры месяцы хацела табе сказаць, ды ўсё чакала: думала, сам здагадаешся.

**Кавальчук:** А чаму ўсё-такі?

**Аксіньня:** Я ўдава...

**Кавальчук:** А я ўдавец. Ну й што?

**Аксіньня:** Я не жартую, старшыня.

**Кавальчук:** Ці не сватаешся ты да мяне, Аксіньня?

**Аксіньня** (ізь злосьцяй): На якое ражно ты бабе трэба? Ад цябе карысьці, як ад казла малака.

**Кавальчук:** Ну, Аксіньня, ты ўжо замахнулася на мой мужчынскі гонар. Ты-б раней праверыла, а потым ужо...

**Аксіньня:** Я на цябе глядзець не магу... Я й сябе зьненавідзела праз цябе. І жыць з табой у ваднэй хаце я не магу. Выбірайся! Сяньня-ж выбірайся! Я болей цябе цярпець у сваёй хаце не хачу.

**Кавальчук** (адразу спаважнеў): Вось як...

**Аксіньня:** Вось так.

**Кавальчук:** Гэта ўжо паважна. Толькі ты растлумач мне, Аксіньня. Я нічога не разумею. У чым справа? Я й сам апошні час заўважаю, што нешта здарылася. Але што?

**Аксіньня:** Цераз цябе я начэй ня сплю, праз цябе я пакутую. Я даравацьсабе не магу... (Змоўкла.)

**Кавальчук:** Мы людзі дарослыя, паважныя, так што давай адкрыта.

**Аксіньня:** Другі раз я аўдавела — вось што. І праз цябе.

**Кавальчук:** Як гэта другі раз?

**Аксіньня:** Нагаравалася я, паспытала ўдоўяга хлеба — во як! І вось ужо быў й шчасьце на парозе, а ты...

**Кавальчук:** Што?

**Аксіньня:** З Раманам мы згаварыліся ўжо... Мужам ён быў мне... толькі... А ты яго ў турму. Дык што ты мне загадаеш — дзякаваць табе за такую ласку? Маўчала, у кулаку сэрца трымала, а болей не магу!

**Кавальчук:** Ня ведаў я гэтага... Толькі ня ўсю віну на мяне валі, калі пайшла такая гаворка.

**Аксіньня:** Ведаю! Сама ведаю! Ня ўпікай! І я вінаватая! Таму што дурная!

**Кавальчук:** Не, ты сумленны, харошы чалавек. А ён, ён таксама вінаваты.

**Аксіньня:** І ён дурань! Трэба была яму гэта бульба...

**Кавальчук:** І парадкі вашы старыя вінаваты. Ламаць іх трэба было. Хочаш крыўдуй, хочаш не, толькі шчыра табе скажу: навет пасьля гэтай нашай гаворкі я зрабіў-бы так, як і тады. Навет калі-б гэта быў мой родны сын.

**Аксіньня:** Бязьлітасны ты чалавек.

**Кавальчук:** Ну што-ж, можа, і твая праўда. **Я пакляўся** — зраблю ўсё, каб з нашага калгасу людзі ў горад па хлеб ня езьдзілі. Дзеля гэтага я й Раману ня мог дараваць. Вось так... Ну, а кватэру я пастараюся знайсьці.

Заходзіць Гудзееў з тым-жа вялікім партфэлем.

**Аксіньня:** Ня крыўдуй, старшыня, але жыць у мяне табе нельга. (Пайшла.)

**Гудзееў:** Прывет, прывет! (Праведзіўшы вачыма Аксіньню.) Накольк я зразумеў, ты, таварыш Кавальчук, абвастраеш свае ўзаемаадносіны з калгасьнікамі. А гэтага я табе ня раіў-бы.

**Кавальчук:** Дзякую за параду. Позна ўжо.

**Гудзееў:** Улічы — у цябе й так даволі хісткае становішча.

**Кавальчук:** Хісткае?

**Гудзееў:** На жаль, так. Ты дарэмна супрацьстаўляеш сабе раёнчае начальства.

**Кавальчук:** Я? І ня думаў. Ня было калі.

**Гудзееў:** Варта падумаць. Раю!

**Кавальчук:** Канкрэтней і карацей. У мяне вельмі многа спраў.

**Гудзееў:** Вось і зы мной ты дарэмна яршышся.

**Кавальчук:** Выбачайце, таварыш Гудзееў. Буду далікатней.

**Гудзееў:** Мяне райком і райвыканком камандзіравалі сюды выправіць твае памылкі.

**Кавальчук:** Дзякую за ўвагу, таварыш Гудзееў.

**Гудзееў:** Твой калгас...

**Кавальчук:** Я яго яшчэ ня купіў.

**Гудзееў:** Ня трэба жартаваць. Ваш калгас — як бяльмо на воку ў раённага кіраўніцтва. Ганебна адстае з абмалотам і здачай хлеба дзяржаве.

**Кавальчук:** Затое ўборку канчаем.

**Гудзееў:** Гэта па-першае. Па-другое: вам даведзены плян хлебазакупу сорак тон, а вы што зрабілі?

**Кавальчук:** Ня я. Праўленьне пастанавіла прадаць дваццаць тон.

**Гудзееў:** Па-трэйцяе: вы злачынна зрываеце плян разьвіцьця жывёлагадоўлі. Вы распрадалі палову фэрмы.

**Кавальчук:** Толькі сорак бычкоў. На мяса. Гораду мяса трэба.

**Гудзееў:** Горад — ня ваш клопат. Вось думайце пра плян пагалоўя.

**Кавальчук:** Ізноў лічбы?

**Гудзееў:** Так, лічбы.

**Кавальчук:** Ёсьць і другія лічбы. Пры такім-жа пагалоўі мы ўдвоілі надой малака. А бычкі, як вам вядома, ня дояцца.

**Гудзееў:** Вы сарвалі нам раённы плян па пагалоўю.

**Кавальчук:** Ізноў-жа — калегіяльна рашылі. Я думаю, што вы ня супраць прынцыпу калегіяльнага кіраўніцтва?

**Гудзееў:** Вы не задавайце мне правакацыйных пытаньняў, таварыш Кавальчук. Я не хлапчук і ў палітыцы крыху разьбіраюся. Я дванаццаць год кіраваў палітшколай пры МТС.

**Кавальчук:** Сялянскае пытаньне дзевяцьсот пятага году разьбіраў?

**Гудзееў:** І ня прыкрывайце сваіх грахоў лёзунгам партыі аб калегіяльным кіраўніцтве.

**Кавальчук:** А я думаю, што гэта ня толькі лёзунг, а прынцып

*...ь беларускай савецкай прэсы*

# „Кажнаму паводля працы"...

Перад намі 31 нумар «Літаратуры й Мастацтва» з 18 красавіка гэтага году. У артыкуле пад загалоўкам «Гэта заслугоўвае ўвагі» чытаем:

«Хіба не парушэньнем сацыялістычнага прынцыпу — роўная плата за роўную працу — зьяўляецца той факт, што заробак старшыні ў адных калгасах складае 10-15, а ў другіх — 60-70 тысяч рублёў у год».

«У выніку празьмерна высокай аплаты ў многіх калгасах заробак старшыньь **у дзесяткі разоў** перавышае сярэдні заробак калгасьнікаў, . . .»

Балаган у сыстэме аплаты адміністрацыйна-гаспадарчага пэрсаналу калгасаў і самаволя гэтага пэрсаналу ў вызначаньні сабе ставак зарплаты — проста зьдзіўляючыя. «Што ні калгас, дык свой парадак» — пішацца ў артыкуле. «Многія старшыні калгасаў атрымліваюць дзяйныя аклады — цьвёрдую грашовую стаўку і 100-120 працадзён кажны месяц». Або, «. . . надаіла даярка 100 літраў малака — старшыня за гэта атрымлівае рубель, астатнім штатным работнікам — пэўны працэнт ад старшынёвай аплаты; пасадзіць садоўнік гэктар саду — старшыні за гэта плоцяць дзесяць рублёў, бухгальтару — 70 працэнтаў ад гэтай сумы і г. д. Справа даходзіць да парадоксаў: купіць калгас машыну — старшыня атрымае за гэта 20 рублёў, іншыя штатныя работнікі — пэўны працэнт ад аплаты старшыні. Навет за тое, што курыца нясе яйкі, старшыня атрымлівае аплату. **Аднак ў нас усямерна прапагандуецца гэты прынцып як самае прагрэсыўнае дасягненьне навукі й практыкі».**

Зазначаючы, што такія парадкі выклікаюць «законнае незадаваленьне ў калгасьнікаў», «бюракратызм» і «адмоўна ўплываюць на вытворчую дзейнасьць калгасаў», віну за такое становішча аўтар намагаецца сапхнуць на працаўнікоў юрыдычнай навукі, якія, паводля яго, «правільна лічачы, што гаспадары арцелі — **калгасьнікі»,** — (падкрэсьленьні ўсюды нашыя — М. К.) ня хочуць умешвацца ў калгасныя справы. Вось дык пашана да правоў калгасьнікаў, «уласьнікаў калгасаў»!, Аднак, хто ў запраўднасьці зьяўляецца гаспадаром калгасаў — мы бачым ўжо навет і на прыкладзе вышэй пададзеных цытатаў. А скуль гэтыя гаспадары бяруцца і кім падтрымоўваюцца, аўтар таксама ня змог замаскаваць. У іншым месцы гэтага-ж артыкулу ён піша:

«Распрацоўваючы мерапрыемствы па ўздыму сельскай гаспадаркі, партыя і ўрад паслалі ў сельгасарцелі вялікую армію спэцыялістых і арганізатараў калгаснай вытворчасьці. Каб хутчэй перададолець адставаньне той ці іншай галіны гаспадаркі або вытворчасьці той ці іншай культуры, прымаліся адпаведныя пастановы па дадатковай аплаце . . .»

Вось, і ўсё ясна. Не калгасьнікі — «гаспадары» калгасаў — выбіраюць калгасных старшыняў, а іх прысылае партыя, і калгасьнік тут нічога ня мае да гутаркі. І не калгасьнікі пастанаўляюць аб вышыні зарплаты адміністрацыйнага пэрсаналу й саміх сябе, а партыйныя апаратчыкі, якія, на становішчах старшыняў калгасаў, заручаныя падтрымкай «усемагутнай» партыі, нажываюцца з цяжкой працы пазбаўленага ўсякіх правоў калгаснага сялянства толькі за тое, што верна выконваюць партыйныя дырэктывы аграбленьня й эксплятацыі беларускай вёскі.

На месцы будзе адзначыць, што подпіс «А. Ракаў», пастаўлены пад разгляданым артыкулам, мы сустракалі і ў газэтцы «За вяртаньне на радзіму». Калі гэта той самы Ракаў, дык парадзім яму спачатку навесьці людзкія адносіны ў сваім сацыялістычным «раю», а пазьней ужо запрашаць эміграцыю вяртацца на Бацькаўшчыну.

**УВАГА,**

**БЕЛАРУСЫ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ! 13-Ы АГУЛЬНЫ ЗВЫЧАЙНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ СКЛІКАЕЦЦА Ў НЯДЗЕЛЮ 17-ГА ТРАЎНЯ Ў БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ Ў ЛЁНДАНЕ.**

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА ЗБВБ**

# Школьная рэформа й беларуская мова

На нядаўняй сэсіі Вярхоўнага Савету БССР быў прыняты «Закон аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і аб далейшым разьвіцьці сыстэмы народнай адукацыі ў Беларускай СССР».

Сярод іншых зьменаў у сыстэме навучаньня ў СССР, якія ўводзіць апошняя школьная рэформа, зьмяняецца ў законным парадку й пытаньне мовы навучаньня. Як ведама, да гэтага часу, як у БССР, гэтак і ў іншых нерасейскіх саюзных рэспубліках, законам было ўстаноўленае абавязковае навучаньне ўва ўсіх школах нацыянальнай і расейскай моваў. Цяпер-жа, новы закон БССР пастанаўляе, што «вывучэньне расейскай мовы ў школах зь беларускай мовай навучаньня, а таксама вывучэньне беларускай мовы ў школах з беларускай або іншай мовай навучаньня праводзіцца на жаданьне вучняў і іх бацькоў».

Дасюль усе школы ў БССР былі афіцыйна **забавязаныя законам** выкладаць беларускую мову — прынамся, як прадмет. А што-ж было на практыцы?

Дакладны малюнак дасюлешняга стану выкладаньня беларускай мовы ў беларускіх і расейскіх школах БССР далі нам артыкулы беларускіх настаўнікаў, студэнтаў і жырналістых, зьмешчаныя ў газэце «Літаратура й Мастацтва» з 14-га сьнежаня 1957 году і 8-га студзеня 1958 году. Там даецца шырокая й сьмелая крытыка палітыкі камуністычнага кіраўніцтва ў галіне навучаньня беларускай мовы ўва ўсіх навучальных установах БССР. Беларускія настаўнікі, студэнты й журналістыя аднадушна сьцьвярджалі, што ў намінальна беларускіх сярэдніх і вышэйшых навучальных установах БССР выкладаньне ўсіх прадметаў вядзецца амаль выключна ў расейскай мове. У вышэйшых навучальных установах цяжка пачуць роднае слова. Навет на факультэтах, якія рыхтуюць кадры толькі для Беларусі, амаль усе дысцыпліны чытаюцца ў расейскай мове. Настаўнікі ніжэйшых школаў скардзіліся, што канчаючы вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі, якія быццам маюць быць «кузьняй нацыянальнай інтэлігэнцыі», яны ня толькі не паглыбляюць сваіх ведаў у галіне беларускай мовы й літаратуры, але забываюцца й тое, што ўжо ведалі раней. А гэта спрачыняецца да таго, што яны ня могуць пазьней выкладаць пабеларуску ў ніжэйшых школах.

Які ўплыў на навучаньне беларускай мовы ў школах БССР можа мець прыняты цяпер закон? Аб гэтым можна пакуль-што меркаваць перш за ўсё на падставе фактаў зь мінулага. Калі ў пэрыяд, **у якім у сіле быў закон аб абавязковым** навучаньні беларускай мовы ўва ўсіх навучальных установах БССР беларуская мова зь ведама партыйных і дзяржаўных органаў і наўсуперак яўнаму незадаваленьню грамадзкасьці ўсьцяж выціскалася з гэтых установаў і падменьвалася расейскай, — дык цяжка спадзявацца, каб ануляваньне гэтага закону змагло паўстрымаць самаволю й ціск з боку кіруючых органаў у напрамку далейшай русыфікацыі школьніцтва ў БССР.

Але вынікі рэформы даюць аб сабе ўжо знаць. У прыгаданым нумары «Літаратура й Мастацтва» Ф. Цімошак разглядае «Праект новых вучэбных пляноў», зьмешчаны ў «настаўніцкай газэце» з 17 лютага гэтага году. Аўтар артыкулу зьвяртае ўвагу на абмежаваньне часу выкладаньня беларускай мовы ў беларускіх школах. Ён піша: «. . . калі меркаваць пра гадзіны, дык атрымліваецца, што на расейскую мову ў расейскай школе адводзіцца па 15 гадзін у тыдзень, а на беларускую мову ў беларускай школе 8,5 гадзін (амаль у два разы менш).»

Бальшавіцкая палітыка ў галіне нацыянальных культураў у СССР пасьлядоўна ажыцьцяўляецца . . . Для прыкладу зьвернем увагу на артыкул у гэтай-жа газэце «Пра культуру мовы радыяперадач». У ім два студэнты Менскага пэдагагічнага інстытуту крытыкуюць дыктараў менскага радыя, якія беларускія тэксты чытаюць з расейскай вымовай.

**М. Кручкоўскі**

# Айцец У. Тарасэвіч у Нью Ерку

Сёлета Вялікдзень быў асабліва радасны для Беларусаў-каталікоў Нью-Ёрку й ваколіцы — напрацягу ўсяго Вялікоднага тыдню тут прабываў айцец Уладзімер Тарасэвіч, прафэсар з каталіцкага каледжу ў Ляйль пад Чыкага.

У сыботу 28-га сакавіка, у Вялікую Сыботу, у капліцы Сьв. Марыі на 15 вуліцы Іст у Нью-Ёрку, якая належыць да карпатарускае грэка-каталіцкае юрысдыкцыі, айцом Тарасэвічам была адслужаная усходнім абрадам Божая Служба з прыгожым прынагодным казаньнем, як далейшы цяг сёлетніх Нью-Ёрскіх сакавіковых урачыстасьцяў. У часе Багаслужбы адбылася вялікодная споведзь і сьв. камунія. У капліцы набралася ладная грамадка вернікаў.

Пасьля Багаслужбы ўсе зыйшлі ўніз, у парахвіяльную залю, дзе а. Тарасэвіч падзяліўся сваймі ўражаньнямі з наведаньня Вашынгтону, прачытаў тэкст малітвы за Беларусь, якую ён чытаў у дзень 25-га Сакавіка ў Кангрэсе ЗША, а таксама расказаў аб жыцьці й працы беларускае грамады ў Чыкага.

Тарасэвіч запыніўся ў Нью-Ёрку на тыдзень часу. Ён наведаў кангрэсмэна Фрэнсыса Е. Дорна, вялікага прыяцеля Беларусаў, Яго Высокапрэасьвяшчэнства Ўладыку Васіля, Архіяпіскапа БАПЦарквы, кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў і прадстаўнікоў тутэйшага беларускага грамадзтва.

У сераду 1-га красавіка а. Тарасэвіч сустрэўся зь Беларусамі-каталікамі Нью-Ёрку. Нарада была прысьвечаная справе арганізацыі ў Чыкага ў канцы лета сёлета каталіцкага тыдню студыяў на ўзор праводжаных апошнімі гадамі ў Эўропе каталіцкіх тыдняў студыяў «Рунь».

У пятніцу ўвечары 3-га красавіка на запросіны БАЗА а. др. Ул. Тарасэвіч меў для шырэйшага беларускага грамадзтва Нью-Ёрку рэфэрат з высьвятленьнем здымкаў зь леташняга свайго падарожжа ў Сьвятую Зямлю, Эгіпет, Турэччыну ды Грэцыю. Рэфэрат быў вельмі цікавы. Асабліва зацікавілі здымкі старадаўных праваслаўных манастыроў на ўсходзе, у тым ліку манастыроў ведамае праваслаўнае сьвятыні — Афонскае Гары. Рэфэрат адбыўся ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру. На рэфэраце былі Ўладыка Васіль, а. Хведар Данілюк ды ладная грамада Беларусаў.

У нядзелю 5-га красавіка ў тэй-жа капліцы Сьв. Марыі а. Тарасэвіч адслужыў быў імшу за Беларусь і Беларускі Народ. У часе Багаслужбы вернікі сьпявалі беларускія рэлігійныя песьні, прасьпяваўшы нарэшце гімн «Магутны Божа», якім канчаецца кажная Божая Служба ў беларускіх сьвятынях бяз розьніцы веравызнаньня. Пасьля імшы адбылася сьціплая бясёда, дзе, пры шклянцы кавы зь піражкамі, быў абмеркаваны цэлы рад арганізацыйных справаў беларускага каталіцкага жыцьця ў Нью-Ёрку. Між іншага, а. Тарасэвіч паведаміў, што ён наведаў а. Віта Пупіна, які служыць цяпер у Брукліне ў каталіцкай царкве сьв. Міхала й Адварда, 108 Сэйнт Эдвардс стрыт, Бруклін 1, Нью-Ёрк, тэлефон МА 5-3017, і які пагадзіўся даваць духовую дапамогу тутэйшым Беларусам-каталіком аж да часу, пакуль у Нью-Ёрку ня будзе заснаваны сталы беларускі каталіцкі асяродак.

Якраз у сувязі з арганізацыяй у будучыні гэткага асяродку, а таксама й дзеля належнага дарыхтаваньня беларускага каталіцкага тыдня ў Чыкага, быў абраны адмысловы камітэт у складзе сп. Франьціша Бартуля, сп-ні Галіны Скрыжэль, ды сп-ні Яніны Каханоўскай, да якіх дайшлі прадстаўнікі з ваколіцы — сп. Б. Даніловіч з Нью-Брансьвіку й сп. А. Попка з Джэрзы Сыты.

Часовым прыпынкам беларускага каталіцкага асяродка ў Нью-Ёрку, месцам каталіцкіх Багаслужбаў, зборак ды нарадаў будзе тымчасам, за прыхільнай згодай а. Паўлы Дано пробаршча, царква Сьв. Марыі на рагу 15 вуліцы й 2 эвэню ў Нью-Ёрку.

А. Ул. Тарасэвіч таго-ж самага дня выляцеў самалётам у Чыкага, дзе яго чакала ўжо ў панядзелак, назаўтрае, штодзённая настаўніцкая праца ў каледжы ў Ляйл.

Пабыт айца Тарасэвіча ў Нью-Ёрку пакінуў добры ўспамін у кажнага, хто меў нагоду зь ім сустрэцца. Вялікая рухлівасьць і ініцыятыва, выяўленыя а. Тарасэвічам за кароткі час аднаго тыдня як найлепш пацьвярджаюць ведамую ўсьвеце бэнэдыктынскую працавітасьць.

**А.**

### НАРАДА НАСНАЎНІКАЎ

13-га сакавіка сёлета ў памешканьні Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбылася нарада Ўправы Беларускага Школьнага Фонду й беларускіх настаўнікаў Нью-Ёрку й ваколіцы, прысьвечаная вельмі войстрай сяньня справе апрацаваньня найбольш патрэбных дзеля нармальнае працы ў беларускіх школах на эміграцыі, беларускіх школьных падручнікаў.

Адчыніў нараду старшыня Беларускага Школьнага Фонду др. В. Тумаш, які прадставіў сабраным справу неабходнасьці выданьня у найхутчэйшым часе цэлага шэрагу найбольш патрэбных падручнікаў, асабліва гэткіх кніжок, як лемантар, чытанка, геаграфія й гісторыя Беларусі, падручнік беларускае мовы й літаратуры для беларускіх школаў.

Пасьля шырокага абмяркаваньня справы й грунтоўнае дыскусіі, былі выбраныя адумысловыя камісіі дзеля апрацаваньня падручнікаў. Дзеля апрацаваньня лемантара — камісія ў складзе сп. сп. М. Тулейкі, Ф. Родзькі й К. Вадэйкі, дзеля апрацаваньня чытанкі — камісія ў складзе сп. сп. М. Міцкевіча, Я. Гладкага й спадарыняў Н. Орса й З. Станкевіч, дзеля апрацаваньня геаграфіі — каміся ў складзе др. А. Орсы, др. Вітаўта Кіпеля і сп. К. Вадэйкі.

Пастаноўлена пачаць працу над апрацаваньнем падручнікаў у кажнай з пералічаных камісіяў — неадкладна.

---

нашага жыцьця. Прынцып, які закрывае дарогу самаўпраўству.

**Гудзееў:** Таварыш Кавальчук! Скажу табе шчыра: хоць ты й паставіў мяне ў няёмкае становішча з тым возам сена, аднак я зла не затаіў. І шчыра табе дабра жадаю. Ня будзь заносістым, не настройвай супраць сябе раён. А там, і ня толькі там, вельмі табой незадаволены.

**Кавальчук:** А я паехаў сюды не для таго, каб падабацца ці не падабацца каму-небудзь у раёне.

**Гудзееў:** Прызнайся шчыра, ты запраўды паехаў дабраахвотна, ці . . . (Нібы нешта выкалуплівае вялікім пальцам).

**Кавальчук:** Эх, вы! . . Ці вам гэта зразумець! Гэта ня словы. Для мяне важна, каб мной былі задаволены партыя й калгасьнікі.

**Гудзееў:** Правільна. А вось якраз калгасьнікі й незадаволены. Яны бамбардуюць усе вышэйшыя й раённыя ўстановы пісьмамі. Я заадно маю заданьне расьсьледаваць іх. Вось яны. (Выняў з партфэлю жмут пісем.) Праўда, я не павінен быў табе гэта раскрываць, але, давяраючы табе як чэснаму камуністаму, не таюся. (Паказвае пісьмы.) Тут і з ЦК, і з абкому, і з рэдакцыі, і . . .

**Кавальчук:** Ого! Хто-ж гэта?

**Гудзееў:** А гэта сакрэт.

**Кавальчук:** Ну што-ж, расьсьледуйце. Толькі прашу — ня вельмі адрывайце людзей. Работы ў нас цяпер па горла — уборка.

Падыходзіць Сенька-Заіка.

**Сенька-Заіка:** Стар-шыня! Сказалі х-плапчука ў больніцу, а ў машыне ні кроплі бэ-энзыны. А?

**Кавальчук:** Няма?

**Сенька-Заіка:** Няма.

**Кавальчук** (звоніць па тэлефоне): Ясачка, павачка, дайце калгас «Дружба». Алё! Здароў, сусед! Кавальчук гаворыць. Я чуў, што ў цябе бэнзына ёсьць. Выручы пасуседзку. Праз тыдзень удвая аддам. Мне кіляграмаў сто . . . Ну хоць на адну запраўку . . . Мне чалавека ў больніцу завезьці. А? . . (Павеніў трубку).

**Сенька-Заіка:** Н-ня даў?

**Кавальчук:** Ня даў. Бедным не даюць.

**Сенька-Заіка:** От табе й «Дружба» называецца . . .

**Кавальчук:** Вось што: знайдзі, купі, украдзь, а каб машына пайшла.

**Сенька-Заіка:** Зн-найду, абы толькі (паціраe пальцамі) грошы.

**Кавальчук** (Ліхтарову ў другі пакой): Мікалай Кузьміч, раскашэльвайся. Дай Сямёну на бэнзыну. (Сямёну.) Ідзі, вазьмі грошы.

**Сенька-Заіка:** Не захацеў па-азычыць, дык у-усё роўна ў яго шофараў (Паказвае на тэлефон.) к-ку-уплю. Пайшоў да Ліхтарова.)

**Кавальчук** (Гудзееву): Вам-бы, райпляну, не кляўзамі займацца, а вырашыць праблему забясьпечаньня калгасаў гаручым. А то дзяржава машыны дала, а цэнтралізаванага забясьпечаньня бэнзынай не зарганізавалі. І думаеце, машыны стаяць? Не, ходзяць. І ўявеце сабе, на бэнзыне, на дзяржаўнай. Толькі часьцей на крадзенай. Вы разумееце, якая калясальная кража?

**Гудзееў:** Гэта функцыі не райпляну, а вышэйшых інстанцый.

**Кавальчук:** Валі на сіўку, усё выцягне. Выбачайце, таварыш Гудзееў, выконвайце свае функцыі, а я пайду свае. (Выходзіць.)

Гудзееў выпатрашыў свой вялізны партфэль, расклаў на стале паперы, усеўся за сталом. Ад Ліхтарова выходзіць Сенька-Заіка.

**Гудзееў:** Эй, таварыш! (Кіўком пальца падзывае Сеньку.) Паклічце да мяне Самасеева.

**Сенька-Заіка:** Ка-алі ласка.

**Гудзееў:** І ведаеш, друг, старшыня даручае табе незаконную справу.

**Сенька-Заіка:** Якую?

**Гудзееў:** Купляць бэнзыну ў шофараў — злачынства. Можна пад суд папасьці.

**Сенька-Заіка:** Ка-алі зловяць.

**Гудзееў:** Могуць злавіць.

**Сенька-Заіка:** Хто?

**Гудзееў:** Міліцыя.

**Сенька-Заіка:** Дабрыла? (Махнуў рукой.)

**Гудзееў:** А хоць-бы.

**Сенька-Заіка:** Каго? М-мяне? (Махнуў рукой.)

**Гудзееў:** Я паважна. Я папярэджу міліцыю.

**Сенька-Заіка:** Хто? Ты?

**Гудзееў:** Я.

**Сенька-Заіка:** Тады знаеш што? (Азірнуўся.) Ідзі ты к . . . (Тыцнуў сабе ў грудзі.) З-заіка . . . д-доўга гаварыць не магу.

**Гудзееў:** Не забывайце, грамадзянін, я пры выкананьні службовых абавязкаў.

**Сенька-Заіка:** А ты не сьпяшайся. Канчай службу.

**Гудзееў** (аж ускочыў з крэсла): Хам! Хуліган! Як ваша прозьвішча?

Сенька-Заіка выйшаў з канторы. На крык Гудзеева із свайго пакою выйшаў Ліхтароў.

**Ліхтароў:** Што такое?

**Гудзееў:** Як яго прозьвішча? Ён мне нагрубіў, нахаміў. Я яго...

**Ліхтароў:** Ня чуў, не магу пацьвердзіць. І наагул зьдзіўляюся, ён у нас культурны, далікатны. Ня можа быць.

У вакне паказаўся Сенька-Заіка.

**Сенька-Заіка:** Не забудзьце перадаць прывет вашым дзеткам. (Зьнікае.)

**Ліхтароў:** Вось бачыце? Ветлівы . . .

Гудзееў нямае чаго сказаць. Ён, як-бы й нічога ня здарылася, садзіцца за стол, адразу ператвараецца ў афіцыйную, паважную асобу.

**Гудзееў:** Таварыш Ліхтароў! На вас паступіў матар'ял, што вы сумесна з Кавальчуком арганізавалі тайную касу ў калгасе й грашовыя апэрацыі праводзіце бязь ведама банку, каб ухіліцца ад пагашэньня дзяржаўных крэдытаў. Прызнаеце за сабой такую віну? Ёсьць тайная каса?

**Ліхтароў:** Калі яна тайная, дык пра яе й гаварыць нельга.

**Гудзееў:** Алі яна ёсьць?

**Ліхтароў:** Незгараемая ёсьць, вось яна. А ключы ў касіра, а касіра няма. Таму нам цяжка ўстанавіць, што там ёсьць. З гэтага гледзішча яна тайная, бо нам невядома, які ікс там у сучасны момант знаходзіцца.

**(Далей будзе)**

# Зь беларускага жыцьця

## Сакавіковае сьвяткаваньне ў Дэтройт (ЗША)

Аддзел БАЗА ў Дэтройт належна ўшанаваў 41-я угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, наладзіўшы ўрачыстую акадэмію, прысьвечаную 25 Сакавіку.

Акадэмія была зарганізавана ў нядзелю 29 сакавіка ў прыгожай залі Інтэрнацыянальнага Інстытуту, удэкараванай амэрыканскім і беларускім нацыянальнымі сьцягамі й Пагоняю.

На акадэмію прыбылі ўсе актыўныя Беларусы Дэтройту, ваколіц, а таксама некалькі гасьцей з Канады.

Старшыня аддзелу БАЗА, мгр. Васіль Пляскач адчыніў акадэмію, прывітаўшы ўсіх прысутных ды заклікаўшы ўсіх Беларусаў вытрывала йсьці тым шляхам, які быў вызначаны гістарычным Актам 25 Сакавіка. Гэты цярністы шлях, усеяны шматлікімі перашкодамі, паліты крывёю верных сыноў Беларусі — змагароў за волю й незалежнасьць свайго народу, прывядзе да зьдзейсьненьня нашага палітычнага ідэялу — незалежнае Беларусі ў сям'і раўнапраўных і сувэрэнных народаў сьвету.

Сп. Мікола Прускі прачытаў прынагодны рэфэрат, схарактарызаваўшы вялізарнае гістарычна-палітычнае значэньне Акту 25 Сакавіка ў змаганьні Беларускага Народу за свае слушныя натуральныя правы.

Наступна былі зачытаныя прывітаньні ад розных беларускіх арганізацыяў ЗША й Канады.

Ад імя Рады БНР прывітаў прысутных др. Язэп Сажыц, заклікаўшы ўсіх да адданай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны й для зьдзейсьненьня нашых нацыянальных імкненьняў, за якія ахвярна змагаецца на эміграцыі Рада БНР.

У мастацкай частцы праграмы бралі ўдзел беларускія дзеці Дэтройту, якія прыгожа прадэклямавалі колькі вершаў ды прасьпявалі колькі песьняў. На асаблівую ўвагу заслугоўвае Вера Блоцкая, якая з пачуцьцём прадэклямавала верш прысьвечаны 25 Сакавіку.

На заканчэньне ўсе прысутныя прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

**В. П.**

## У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва

Напрацягу апошніх трох месяцаў у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку адбылося колькі рэфэратаў:

8-га студзеня 1959 году праф. А. Адамовіч меў рэфэрат на тэму: «Сорак год беларускае літаратуры ў БССР».

У сыботу 31-га студзеня Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ладзіў рэфэрат др. В. Тумаша на тэму: «Беларушчына ў польскім слоўніку». Рэфэрат, пабудаваны на падставе навейшых працаў польскіх ды іншых навукоўцаў і моваведаў, вельмі зацікавіў быў слухачоў, дзеля чаго пасьля дакладу вывязалася жывая дыскусія й вымена думкамі.

У сыботу 14-га лютага ў БІНіМ адбыўся чародны рэфэрат на тэму з галіны гісторыі беларускае вайсковасьці. Чытаў яго ген. Ф. Кушаль на тэму: «Усходнія межы Вялікага Княства Літоўскага ў 14-17 стагодзьдзях».

28-га лютага сёлета Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ладзіў цікавы рэфэрат прысьвечаны тэме з эканомікі Беларусі, а гэта — «Лясная палітыка на Беларусі». Чытаў рэфэрат інж. М. Гарошка.

У сыботу 12-га красавіка сёлета на чародным навуковым паседжаньні БІНіМ, ген. Ф. Кушаль прачытаў рэфэрат на тэму: «Роля Беларусі ў Казацкіх войнах з Рэчпаспалітай у 17-м стагодзьдзі».

У сваім уступе да рэфэрату, ген. Кушаль сказаў, што мэтаю сяньняшняга ягонага рэфэрату — пазнаёміць беларускае грамадзтва з прабегам г. зв. Казацкіх войнаў з Рэчпаспалітай у 17 стагодзьдзі і з канчальным вынікам гэтак крывавага й гераічнага змаганьня паміж блізкіх да сябе па крыві, суседніх, народаў, як Палякі, Украінцы ды Беларусы, бо змаганьне гэтае, войны 17-га стагодзьдзя, не застануцца бяз уплыву на падзеі, якія можа ўжо неўзабаве надыйдуць. Што так будзе, відаць хоць-бы з таго, што Савецкая Расея пасполу з Савецкай Украінай вельмі ўрачыста сьвяткавалі ў 1954 г. трохсотныя ўгодкі Пераяслаўскае ўмовы, а ў мінулым 1958 годзе Палякі й Украінцы адзначылі тут, на эміграцыі, трохсотную гадавіну Гадзяцкае ўмовы.

У сваім рэфэраце ген. Кушаль вельмі вобразна прадставіў слухачом бліскучыя перамогі казацкіх войскаў пад камандаю Багдана Хмяльніцкага над каронным войскам пад Жоўтымі Водамі й Корсунем, зацяты, нявырашаны бой пад Зборавам і ўрэшце — падпісаньне міру ў Зборавe Багданам Хмяльніцкім і польскім каралём Янам-Казімерам у 1648 годзе, цяжкую паразу Багдана Хмяльніцкага пад Берастэчкам у ліпені 1651 году, у выніку якое быў падпісаны новы мір у Белай Царкве, падыктаваны ўжо не Хмяльніцкім, але Палякамі.

Беларусь, паводля словаў рэфэрэнта, займала ў гэтым часе адно абаронную пазыцыю. Беларускае войска баранілася ад казацкіх аддзелаў, прысыланых Хмяльніцкім на Беларусь пад камандаю атаманаў Галоты, Крэчэўскага й Нябабы, нішчачы іх каля паўдзённа-усходняе мяжы Вялікага Княства Літоўскага рэгулярнымі беларускімі адделамі пад камандай гэтмана Януша Радзівіла.

Параза пад Берастэчкам прымусіла Багдана Хмяльніцкага шукаць саюзьніка супраць Рэчпаспалітае — у Маскве. У студзені 1654 году абодвы бакі падпісалі славутую Пераяслаўскую ўмову. Кажны з саюзьнікаў разумеў гэтую ўмову пасвойму: Украінцы, як часовы вайсковы саюз, Масква — як падданьне Украіны пад уладу цароў назаўсёды. Але як-бы хто не разумеў Пераяслаўскую ўмову, пэўнае адно, што яна прынесла ня толькі Украіне, але й Беларусі вялікія няшчасьці, бо Масква усёй сваёй магутнасьцяй звалілася была неўзабаве й на Украіну й на Беларусь, аб чым у сваім часе ў «Бацькаўшчыне» быў зьмешчаны адмысловы артыкул у нумары, прысьвечаным Слуцкім Угодкам, у лістападзе 1958 году.

Пасьля сьмерці Багдана Хмяльніцкага ў жніўні 1658 г., — працягваў рэфэрэнт, — паміж наступнікам Хмяльніцкага гэтманам Іванам Выгоўскім і ўпаўнаважаным Польшчы Бенеўскім была сьпісаная ўмова ў месьце Гадзячы. На падставе яе мелася паўстаць незалежнае Украінскае гаспадарства, якое складалася-б з трох ваяводзтваў — Чарнігаўскага, Кіеўскага й Брацлаўскага і звалася-б Княствам Рускім. Рускае Княства мелася быць сфэдэраванае з Польшчаю на ўзор Вялікага Княства Літоўскага паводля пастановаў Люблінскага Сойму ў 1569 годзе. На датрыманьне згаданае Гадзяцкае ўмовы польскі кароль Ян-Казімер, а з боку украінскага — казацкія старшыні на чале з гэтманам Выгоўскім склалі ўрачыстую прысягу. Але было ўжо запозна на згоду, бо Маскоўская нага, раз ступіўшы на Украіну, пачала ціснуць яе штораз мацней. Ня гледзячы на перамогу гэтмана Выгоўскага над арміяй маскоўскай пад Канатопам у 1659 годзе, Украінцы вайну з Маскоўшчынай прайгралі. Пасьля даўгога й крывавага змаганьня, у Андрусаве быў нарэшце падпісаны мір, паводля якога Украіна была падзеленая па Дняпры на дзьве часткі — усходнюю, маскоўскую й заходнюю, польскую.

Канчаючы рэфэрат, ген. Кушаль падчыркнуў, што з войнаў 17-га стагодзьдзя Беларусы, Палякі і Украінцы павінны мець для сябе адпаведную навуку, бо так ці йначай, а гэтыя народы самым лёсам засуджаныя на вечнае суседскае сужыцьцё.

У пляне рэфэратаў БІНіМ на бліжэйшую будучыню — рэфэрат праф. А. Адамовіча на тэму «Нацыянальнае самавызначэньне пасавецку» й рэфэрат інж. М. Гарошкі та тэму, прысьвечаную зноў эканоміцы Беларусі.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ НАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

## У Кліўлендзе

5-га красавіка сёлета адбыўся справаздачна-перавыбарчы сход парахвіі БАПЦ у Кліўлендзе.

А гадз. 12-ай у сьвятліцы Беларускага Дому сабраліся прыхаджане, каб выбраць новы Камітэт, які будзе мець вялікае заданьне — будову царквы.

Дасюлешні старшыня сп. М. Гумен адчыніў сход і запрапанаваў выбраць прэзыдыюм, куды ўвайшлі сп. Ул. Дунец — старшыня, сп. М. Кабяка — сакратар, сп. А. Шастак — сябра. Дасюлешні сакратар сп. П. Дварэцкі прачытаў пратакол з папярэдняга сходу. Старшыня сп. М. Гумен прачытаў справаздачу зь дзейнасьці Камітэту, а настаяцель прыходу міт. прат. а. М. Макарэвіч дапоўніў, падкрэсьліваючы павялічэньне прыходу за мінулы справаздачны год. Скарбнік сп. М. Ягаўдзік зрабіў падрабязную фінансавую справаздачу. Сп. К. Калоша зрабіў справаздачу адміністрацыі Беларускага Дому. Акт рэвізыйнае Камісіі прачытаў сп. А. Каханоўскі. Сход уступаючаму Камітэту удзяліў абсалютарыюм з падзякаю. У склад новага Камітэту ўвайшлі наступныя сп. сп.: М. Гумен — старшыня, М. Кабяка — заступнік, В. Сьпічонак — сакратар, М. Ягаўдзік — скарбнік і спня Г. Радзюк — сябра. На царкоўнага старасту выбралі сп. М. Страпко. У Адміністрацыю Дому выбраныя сп. сп. К. Калоша, А. Стрэчань і С. Карніловіч. У Рэвізыйную Камісію ўвайшлі сп. сп. А. Каханоўскі, А. Семянчук і Ул. Літвінка. Сход закончыўся малітваю.

☆

12-га красавіка у сьвятліцы Беларускага Дому адбыўся перавыбарчы сход Аддзелу БАЗА у Кліўлендзе. Заступнік старшыні сп. С. Карніловіч адчыніў сход і запрапанаваў выбраць прэзыдыюм. У прэзыдыюм былі выбраныя сп. сп. К. Кіслы — старшыня, Ул. Дунец — сакратар. Справаздачу зь дзейнасьці Аддзелу прачытаў сп. С. Карніловіч, а фінансавую — скарбнік А. Яраховіч. Акт Рэвізыйнае Камісіі прачытаў сп. К. Кіслы. Сход удзяліў уступаючай Управе абсалютарыюм із падзякаю. У новую Ўправу былі выбраныя наступныя спадары: В. Сьпічонак — старшыня, А. Кабяка — заступнік, В. Лукашэвіч — сакратар, А. Яраховіч — скарбнік, К. Калоша — культурна-асьветны рэфэрэнт. У склад Рэвізыйнае Камісіі ўвайшлі сп. М. Кабяка, сп. М. Ягаўдзік і сп-ня Т. Кананчук.

**Ул. Д.**



**УВАГА! УВАГА! УВАГА!**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» падае да ведама тым чытачом, якія з тых ці іншых прычынаў ня могуць карыстаць з ганаровых паслугаў нашых прадстаўнікоў і кальпартэраў, што газэту «Бацькаўшчыну», а таксама ўсе кніжныя выданьні «Бацькаўшчыны» можна атрымоўваць беспасярэдня з Адміністрацыі «Б-ны», пераслаўшы адпаведную грашовую належнасьць. Банкавае конта й цана падпіскі «Б-ны» стаіць пры загалоўку газэты. Цана кніжак, выдадзеных выд. «Б-на», час-ад-часу падаецца на апошняй бачыне нашае газэты.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

### ПОШУКІ

Захаркевіч Іван шукае **Буневіча Ўладзімера,** нар. у 1920 г у вёсцы Мокрава, Лунінецкага раёну, вывезенага ў 1943 г. гэстапам у Нямеччыну (былі чуткі, што, быццам, у Шчэцін). Весткі ветліва просіцца слаць на наступны адрас:

Jan Zacharkiewicz
2618 W 17 Str.
Chicago, Ill., USA

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

*Фэльетон*

## *Пэгас возіць гной*

Нядаўна Шолахаў расказваў замежным журналістым, што калі ён аднойчы папытаўся нябошчыка Фадзеева, што такое соцрэалізм, той яму адказаў: «А чорт яго ведае, што гэта такое?» Няведама, ці Фадзееў даведаўся, што такое соцрэалізм, але вельмі магчыма, што даведаўся, і таму застрэліўся. Бедны Фадзееў! Але шмат бяднейшыя тыя мастакі, якія мусяць і далей калупацца ў гэтым сацыялістычным рэалізьме!

Як нас вучыць міталёгія, у гарэме бога Сонца й паэзіі Апалёна было 9 музаў. Усе яны былі прыгажуні, ну, і скажам дыялектычна — беларучкі. Але яны тысячагодзьдзямі натхнялі мастакоў. А сярод іх была муза паэзіі — Эрато. Быў таксамы і крылаты конь Пэгас, што капытамі выкапаў крыніцу, зь якое цякла чыстая, крыштальная, без аднэй сотай працэнту алькаголю, вада натхненьня. Гэтая крыніца называлася Гіпакрона. і зьявіліся на сьвет несьмяротныя творы: «Іліяда», «Адысэя», «Боская камэдыя», «Фаўст», «Дон Кіхот», «Дон Жуан», «Дэман», «Сымон музыка» і іншыя. Такія творы ператрывалі тысячагодзьдзі і будуць жыць так доўга, як доўга будзе існаваць людзтва. Але ніводнаму з гэтых волатаў мастацтва ніколі ня прыйшла ў галаву злачынная думка запрагчы крылатага Пэгаса ў воз з гноем, а музам загадаць капаць гной.

А вось зьявіўся сацыялістычны рэалізм — гібрыд, які паўстаў у выніку скрыжаваньня сатрапа з балванам, ды аб якім Фадзееў сказаў, што гэта «чорт яго ведае, што такое». І гэты сацыялісычны рэалізм запрог крылатага Пэгаса ў воз з гноем, а музам загадаў даіць кароў і капацца ў гнаі.

Ня верыце, грамадзяне? І мне было цяжка паверыць, хоць я — дацэнт крытыкі і самакрытыкі Нічыпар Лата. Але прыгадайце «Вясновую оду» Максіма Танка ў сакавіковым нумары «Полымя». Вось там Танк крычыць:

«Глядзеце — паставіў Пэгаса ў аглоблі,
Вазіць памагае калгасьнікам гной ...»

Максіма Танка, а ў запраўднасьці Аўгена Скурко, я сустракаў у Вільні (паўтараю — у Вільні, ня ў Вільнюсе). Цяжкавата яму жылося, бо Палякі часам садзілі яго ў турму за беларускі нацыяналізм. Але тады Танк, ці ў турме, ці ў бедным пакойчыку — пісаў прыгожыя вершы й паэмы, і Пэсага ў воз з гноем не запрагаў ...

Але вось 17-га верасьня 39-га году да нас прыйшло «вызваленьне ад хлеба й сала». Сталін выцягнуў нам «братнюю руку», а мы, рэч зразумелая, ледзь ня выцягнулі ногі. Але Танк — хлапец, які ўмее трымаць нос да ветру. Ён адразу пачаў пісаць оды Сталіну, а за гэта й атрымаў сталінскую прэмію.

Цяпер партыя загадвае: «Давайце як найбольш гною!» Танк, зразумела, на загад робіць гной:

«Глядзеце — паставіў Пэгаса ў аглоблі,
Вазіць памагае калгасьнікам гной ...»

Усё гэта было-б вельмі сьмешным, калі-б ня было так сумным ...

Што партыя патрабуе гною сьветчыць і яшчэ адзін верш з сакавіковага нумару «Сельскай гаспадаркі Беларусі». Там старшыня калгасу імя Суворава (паўтараю — імя Суворава) Пашкевіч пісануў таксама верш «Зімовыя будні», дзе ён кажа:

«Фурманкі з гноем на полі
Плывуць, плывуць даўгім абозам ...»

І далей:

«Узьняўся штабель і другі
На сьнежным полі ўжо чарнее ...»

Зразумела — «штабель» гною ...

Дарагія чытачы! Ня будзем прыдзірацца да старшыні калгасу імя Суворава. Аб чым-жа ён мог пісаць вершы? Таму падумаем рэальна. У 56-ым годзе, калі мудрая партыя таксама дамагалася больш гною, я прыдумаў актуальны лёзунг: «Завалім родную партыю гноем!»

Сяньня гэты лёзунг ня страціў сваёй актуальнасьці, і можна яго паставіць як адзін зь першамайскіх заклікаў. А калі пры гэтым заваліцца гноем і сацыялістычны рэалізм — «чорт яго ведае, што гэта такое» — дык думаю, ніхто ня будзе плакаць ...

**Нічыпар Лата**

### 10 год таму „Бацькаўшчына" пісала:

Бязумоўна несьвядомых трэба ўсьведамляць і рабіць іх карыснымі для справы нашага нацыянальнага вызваленьня. Праступнікам было-б выракацца й тых Беларусаў, што з прычыны спэцыфічных абставінаў у Савецкім Саюзе, дзе яны перад гэтым жылі, сяньня ня ўмеюць навет гаварыць пабеларуску.

**№ 11 (55), 4 травеня 1949 г.**

### УВАГА!

**Праграмы Беларускае рэдакцыі радыя «Вызваленьне» перадаюцца на Бацькаўшчыну ў наступных гадзінах менскага часу:**
**Ад 1-ае да 3-яе гадзіны ночы — на хвалях 31 і 41 мэтраў**
**ад 11-ае да 13-ае гадзіны — на хвалях 17 і 19 мэтраў**
**і ад 22-ое да 23-яе гадзіны — на хвалях 25 і 31 мэтраў**

**Беларуская Рэдакцыя Р. В.**

✶

**Праграмы Беларускае рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя перадаюцца ад гадз. 18.30 да 18.45 сярэдняэўрапэйскага часу (20.30 — 20.45 — менскага часу) і ад гадз. 20.45 да 21.00 (22.45 — 23.00) на хвалях 32,05 м. (9363 kc/s) і 42,22 м. (7105 kc/s).**

**Беларуская Рэдакцыя Г. Н. Р.**

### ГАДАВІКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**З Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» можна выпісваць поўныя гадавікі «Бацькаўшчыны» (ня пераплеценыя) за наступныя гады:**

**1953, 1954, 1955, 1956, 1957 і 1958.**

**Цана аднаго гадавіка разам зь перасылкай 5 амэрыканскіх даляраў або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Дзеля таго, што ўспомненых кампletаў Рэдакцыя мае вельмі абмежаваную колькасьць, жадаючым іх атрымаць радзім сьпяшацца з выпіскай.**




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**